


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 27 (361) — Нядзеля, 7 ліпеня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11

# ЗН асуджаюць савецкую інтэрвэнцыю ў Вугоршчыне

Адумысловы камітэт Задзіночаных Нацыяў апублікаваў 20 чэрвеня гг. даклад аб савецкай інтэрвэнцыі ў Вугоршчыне. Дакумант гэты, што налічвае 391 бачын або 150 тысяч словаў — адзін з найбольшых у гісторыі Задзіночаных Нацыяў. Прысуд, вынесены Савецкаму Саюзу ў гэтым дакуманьце, тым больш пераканальны, што ён паходзіць ад камітэту, які складаецца ў сваёй бальшыні з прадстаўнікоў малых дзяржаваў. У гэты камітэт увайшлі: К. Ц. О. Шанн (Аўстралія), Алсынг Андэрсэн (Данія), Монті Слім (Туніс), Энрыко Р. Фабрэгат (Уругвай) і Р. С. С. Гунавэрдын (Цэйлён).

Камітэт дайшоў да такога агульнага вываду: «Змасаваная збройная інтэрвэнцыя адная дзяржавы на тэрыторыю іншае зь яўна выражаным намерам умяшаньня ў нутраныя справы гэтай другой дзяржавы павінна быць. навет паводля собскае савецкае дэфініцыі агрэсіі, пытаньнем, якое тычыцца ўсяго сьвету».

У заданьні адмысловага камітэту не ўваходзіла выносіць якія-небудзь рэкамэндацыі для Задзіночаных Нацыяў. Ягоным заданьнем было сабраньне «найбольш поўнай і даступнай інфармацыі аб палажэньні, што стварылася ў выніку інтэрвэнцыі СССР». Прадстаўнік Аўстраліі Шанн, што складаў рапарт, адзначыў, што вывады гэтага рапарту можна зьвесьці да трох асноўных пунктаў: 1) няма сумлеваў, што Савецкі Саюз збройна інтэрвэньяваў двойчы: у першым выпадку — для здушэньня народнага паўстаньня, а ў другім — для зьліквідаваньня праўнага й падтрымоўванага народам ураду. 2) Тое, што адбылося ў Вугоршчыне ў кастрычніку-лістападзе мінулага году, было стыхійным усенародным паўстаньнем, не падтрымоўваным звонку, а не контррэвалюцыяй, прызначанай для аднаўленьня старой формы кіраваньня. 3) Урад Кадара ня меў народнай падтрымкі ў момант яго стварэньня ды ня мае яе й цяпер. На працягу даўжэйшага часу пасьля 4 лістапада ня было ніякага вугорскага ўраду, а краінай кіравалі савецкія ўлады.

Рапарт, выкладзены стрымана й аб'ектыўна, асновань на сьветчаньнях 111 сьветкаў, што знаходзіліся ў Вугоршчыне ў часе апісваных імі падзеяў ды якія ведаюць гэтыя падзеі асабіста. Некаторыя ўрады таксама далі камітэту дакумэнтальныя матар'ялы. Аднак ні Савецкі Саюз, ні ўрад Кадара не захацелі супрацоўнічаць з камітэтам ЗН. Яны катэгарычна цьвердзілі, што стварэньне такога камітэту парушае статут Задзіночаных Нацыяў, які забараняе ўмешвацца ЗН у нутраныя справы дзяржаваў-сяброў арганізацыі.

Наўсуперак усім цьверджаньням СССР, што савецкія войскі дзейнічалі ў Вугоршчыне па запросінах вугорскага ўраду, камітэт давёў, што няма ніякіх дадзеных аб тым, каб такія запросіны ці просьба былі калі-небудзь адрасаваныя да савецкіх уладаў вугорскім урадам. Прыводзячы тэлеграму, пасланую быццам-бы з Вугоршчыны ў СССР з просьбай аб інтэрвэнцыі й датаваную 24-м кастрычнікам, камітэт адзначае: «Камітэту цяжка зразумець, як маглі прыбыць у Будапэшт савецкія танкі ў 2 гадзіны раніцай у сераду 24-га кастрычніка ў вадказ на запросіны, атрыманыя ўрадам СССР у той-жа самы дзень.

Мала гэтага, рапарт адзначае, што савецкія ўлады, занепакоеныя уплывам польскіх падзеяў на Вугоршчыну, яшчэ 20 кастрычніка пачалі падрыхтоўвацца да збройнай інтэрвэнцыі. Яшчэ 20-21 кастрычніка былі наведзеныя пантонныя масты на рацэ, што становіць сабой мяжу між СССР і Вугоршчынай. Ёсьць сьветчаньні, што савецкае войска ў Румыніі было прыведзенае ў стан баёвай гатоўнасьці 21-22 кастрычніка.

Камітэт выявіў, што другая інтэрвэнцыя — 4-га лістапада — адбылася пры няясных абставінах. Ён выказвае дапушчэньне, што ачольваны Яношам Кадарам урад мог знаходзіцца ў Маскве пад ціскам, калі ён быццам-бы прасіў Маскву дапамагчы ліквідаваць рэжым Надзя. У кажным выпадку, рапарт адцемлівае наяўнасьць «мноства довадаў, што яшчэ ў вапошнія дні кастрычніка адбывалася савецкая падрыхтоўка да далейшае інтэрвэнцыі, у тым ліку рух войска й танкавых частак з-за мяжы.»

Камітэт выказвае дапушчэньне, што ў гэтым часе мог быць канфлікт між савецкімі палітычнымі й вайсковымі ўладамі ў дачыненьні шляхоў і сяродкаў змаганьня з паўстаньнем: «Вельмі магчыма, — пішацца ў рапарце, — што беспасярэдня перад другой інтэрвэнцыяй палітычныя й вайсковыя ўлады разыходзіліся ў пытаньні лепшых мэтадаў дзеяньня ў гэтых нязвычайных умовах, і што вайсковыя ўлады ўвесь час трымаліся таго гледзішча, што адзіны шлях для разьвязаньня паўсталых у Вугоршчыне цяжкасьцяў — г та ўжыцьцё сілы».

Рапарт рысуе пераканальны абраз таго, як па ўсім краі стыхійна паўставалі рэвалюцыйныя рады для запаўненьня «пустаты ў урадавым апараце, выкліканай упадкам апарату камуністычнай партыі». Гэтыя рады паўставалі бязь ніякага агульнага пляну ці кіраўніцтва з цэнтру: «Масавая падтрымка, аказаная Вугорцамі гэтым работніцкім радам, — гаворыцца ў рапарце, — пацьвярджае думку, што гэтыя рады належалі да ліку найбольш важных дасягненьняў вугоскага народу за гэтыя нешматлікія дні свабоды.»

Шырокі ўдзел вугорскае працоўнае клясы ў паўстаньні ўстрасянуў маскоўскія ўлады й выклікаў сярод іх разгубленасьць. Вывезеныя ў Савецкі Саюз удзельнікі гэтых радаў былі падрабязна выпытваныя аб прычынах і характары паўстаньня: «Факт руху работніцкае клясы супраць камуністычных мэтадаў і ідэялаў ды супраць эмблемаў Савецкага Саюзу, як сымбаляў гэтых мэтадаў, — адцемлена ў рапарце, — павінны былі-б, здавалася, выклікаць лютасьць дапытваючых. А тымчасам у Вугорцаў стварылася ўражаньне, што дапытваючыя іх савецкія чыноўнікі адносіліся да гэтых рэчаў не бяз сымпатыі.»

Рапарт катэгарычна пацьвярджае, што паўстаньнем кіравалі студэнты, работнікі, жаўнеры й прадстаўнікі інтэлігенцыі — шматлікія зь іх камуністыя, або былыя камуністыя. «Удзельнікі паўстаньня настойваюць, што асновай вугорскага палітычнага ладу павінен быў быць дэмакратычны сацыялізм і што зямельная рэформа ды іншыя сацыяльныя дасягненьні павінны былі быць захаванымі й непарушнымі.»

Рапарт адцемлівае, што з мамэнту другой савецкай інтэрвэнцыі рэжым Кадара пачаў сыстэматычна разбураць уладу працоўных і работніцкіх радаў. За ўдзел у штрайках прымяняецца кара сьмерці.

Рапарт дакладна апісвае, як Імрэ Надзь і ягоныя сябры былі схопленыя прадстаўнікамі Савецкага Саюзу пасьля таго, як яны пакінулі югаслаўскую амбасаду. І гэта здарылася ня гледзячы на абяцаньне ўраду Кадара, дадзенае Югаславіі, што Надзь і ягоная група могуць вольна й бясьпечна вярнуцца дадому.

У рапарце апісваецца таксама другі выпадак савецкае зрады на пярэдадні другой савецкай інтэрвэнцыі 4 лістапада. У штабе савецкіх войскаў у Будапэшце адбываліся перамовы між вугорскімі вайсковымі кіраўнікамі, ачольванымі міністрам абароны генэралам Малетэрам, і савецкімі вайсковымі прадстаўнікамі аб апошніх дэталях вываду савецкіх войскаў з Вугоршчыны. А поўначы перамовы былі раптоўна перарваныя «зьяўленьнем асобы бяз знакаў адрозьненьня, што аказалася генэралам Серавам, кіраўніком савецкай паліцыі бясьпечнасьці». У рапарце малюецца такі абраз таго, што адбылося:

«Ён увайшоў у суправаджэньні савецкіх ахвіцэраў і абвесьціў, што арыштуе вугорскую дэлегацыю. Старшыня савецкай дэлегацыі, генэрал Малінін, зьдзіўлены гэтым умяшаньнем, зрабіў жэст абурэньня пасьля чаго Сераў нешта яму прашаптаў. Генэрал Малінін пацiснуў плячыма й загадаў савецкай дэлегацыі пакінуць пакой. Тады вугорская дэлегацыя была арыштаваная.»

# Масква плянава нішчыць беларускі народ

Толькі поўны ляік у пытаньнях падсавецкага Ўсходу або нясумленны дэмагог можа сяньня запярэчваць факт, што бальшавіцкая, як і перад ёю царская, Масква ня імкнецца да поўнае русыфікацыі паняволеных ёю народаў і што цяперашняя бальшавіцкая русыфікацыя ня ёсьць беспасярэднім прадаўжэньнем некальківяковае русыфікацыйнае палітыкі царскае Расеі. Праўда, мэтады, вядучыя да гэтае русыфікацыі, пры бальшавізьме ў многіх выпадках іншыя, больш змадэрнізаваныя і ўдасканаленыя, а таму й больш пасьпяховыя.

З гэтых спэцыфічна бальшавіцкіх мэтадаў русыфікацыі варта ўспомніць два, як аснаўныя й найбольш характэрныя: першы — гэта русыфікаваньне нерасейскіх народаў у іхнай роднай мове або цераз г. зв. «нацыянальную форму» й «сацыялістычны (чытай расейскі) зьмест», каб, пры дастатковым замацаваньні гэтага «сацыялістычнага зьместу» зьнішчыць і «нацыянальную форму», замяняючы яе формай расейскай; другі — гэта нішчэньне й аслабліваньне нацыянальнага патэнцыялу нерасейскіх народаў шляхам іхнага масавага перасяленьня, дэпартацыяў і зьмешваньня з расейскім нацыянальным элемэнтам, што пры сучаснай камунікацыйнай тэхніцы й адрыве сялянтва ад зямельнай собскасьці, дзякуючы калгаснай і саўгаснай сыстэме, сталася магчымым у нячувана шырокіх маштабах.

У выніку тарнаваньня гэтага апошняга мэтаду Беларусь, як паказалі новыя савецкія статыстычныя дадзеныя, за кароткі пэрыяд 17-ёх год (1939—1956) страціла $24^{1}/_{2}$% свайго насельніцтва (з 10,4 мільёнаў у 1939 г. насельніцтва БССР зьменшылася да 8 мільёнаў у 1956 г.), ня ўлічваючы натуральнага прыросту. Такім чынам гусьціня насельніцтва з 50 чалавек на адзін кв. клм. зьнізілася да 38 чалавек на адзін кв. клм.

Гэтым, жахлівым у сваіх выніках пытаньнем заходняя дэмаграфія амаль што дагэтуль ня цікавілася. А калі й цікавілася, дык гэтыя вялізарныя страты насельніцтва Беларускай ССР выясьняла зьнішчальнымі вынікамі апошняе вайны, тэатрам дзеяньня, якой была ўся Беларусь. Гэткі падыход да пытаньня вельмі яго ўпрошчываў і поўнасьцяй не разьвязваў.

Бясспрэчна, апошняя вайна прынесла Беларусі вялізарныя зьнішчэньні й страты ў людзях. Яны былі бясспрэчна большыя, чымся ў прыбалтыцкіх краінах, дзе беспасярэдныя ваенныя дзеяньні трывалі коратка, і чымся на Ўкраіне, дзе дзейнасьць бальшавіцкай партызаншчыны, якая спрычынілася да вялікага спусташэньня Беларусі й зьнішчэньня ягонага насельніцтва, з прычыны шмат горшых прыродных умоваў была шмат меншая й меншыя прынесла страты. Але й гэтае выняткава найгоршае палажэньне Беларусі ў вапошнюю вайну яшчэ ня выясьняе да канца ўсіх стратаў ейнага людзкага патэнцыялу. Гэтыя страты за вялікія, як на выключна ваенныя зьнішчэньні. Таму трэба шукаць яшчэ й іншых прычынаў, што іх выклікалі.

Першым зь небеларускіх вучоных, ведамы польскі гісторык і дэмаграф Уладыслав Вельгорскі спрабаваў правільна падыйсьці да гэтага пытаньня ў перадрукаваным у гэтым нумары «Бацькаўшчыны» артыкуле «Масква 'дае навуку' сьвету». Аўтар артыкулу — перад апошняй вайной дырэктар польскага дзяржаўнага Інстытуту Дасьледаваньня Ўсходняе Эўропы ў Вільні. Зь беларускімі праблемамі ён досыць добра абзнаёмлены, хаця й не свабодны ад агульнай польскай тэндэнцыйнасьці, якая праяўляецца ў колькасным і якасным зьменшываньні беларускага нацыянальнага патэнцыялу, асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, на якую прэтэндуе Польшча. Ягоны падыход да беларускіх пытаньняў усё-ж дадатня выдзяляецца спасярод польскіх шавіністычных дасьледавальнікаў хоць-бы ўжо тым, што ў устанаўленьні колькасьці Беларусаў у перадваеннай Польшчы ён не адважваецца браць за аснову груба хвальшаваных польскіх урадавых статыстык.

У ўспомненым ягоным артыкуле нельга згадзіцца зь цьверджаньнямі, што беларускае насельніцтва на ўсход і поўнач ад сучасных межаў БССР яшчэ ў 1897 годзе было поўнасьцю зрусыфікаванае навет у галіне мовы. Базаваньне гэтага цьверджаньня выдучна на перапісе 1897 году нельга ўважаць за дастатковае, бо гэты перапіс быў далёкім ад дасканалага й аб'ектыўнага і ў дачыненьні да Беларусі чым далей на поўнач і ўсход, тым больш быў ён няправільны. Адным з довадаў, што і на ўсход і поўнач ад сучаснай БССР насельніцтва яшчэ нядаўна адчувала сябе беларускім, можа служыць хоць-бы факт, што дэлегаты Смаленшчыны на Першым Усебеларускім Кангрэсе ў 1917 годзе найбольш станоўча баранілі прынцып дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі й поўнага аддзяленьня ад Расеі і што й пазьней Смаленшчына неаднаразова выказвала тэндэнцыі прылучэньня яе да БССР. Таксама мыляецца сп. Вельгорскі, уважаючы, «што Беларусь ужо цяпер выхалашчаная амаль з усіх актыўных людзкіх сілаў, што змагаюцца з бальшавізмам». Гэтаму поўнасьцю пярэчаць найбольш сьвежыя выпадкі нацыянальнага супраціву і праявы «буржуазнага нацыяналізму», на які нападае бесьперапынна савецкая прэса.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

(пс) Заходнія дыпляматычныя колы паважна занепакоеныя савецкімі даставамі зброі для Эгіпту. У вапошнім часе Эгіпт атрымаў тры вялікія падводныя лодкі, а дзьве зь іх прыгодныя да ўжываньня атамных тарпэдаў. Няма ніякіх дадзеных, што гэтыя лодкі азброеныя атамнымі тарпэдамі, аднак навет той факт, што Нассэр мае падводныя лодкі і можа імі блякаваць Акабскую затоку і гэтым самым павялічаць напружаньне ў гэтым нэўральгічным раёне, дае дастаткова прычынаў да непакою.

Вайсковыя колы прадбачваюць, што гэтыя лодкі маюць за заданьне сачыць за рухам амэрыканскага шостага флёту, які знаходзіцца на Сяродземным моры. Што праўда, гэта не стварае вялікай небясьпекі для гэтага флёту, але можа стацца прычынай небясьпечных інцыдэнтаў.

Хіба-ж ня выпадкова два савецкія ваенныя караблі, выйшаўшы з Чорнага мора, зьявіліся ў раёне Суэзу. Гэта ад 40 год першы выпадак, што расейскія ваенна-марскія адзінкі зьявіліся на Суэскім канале.

Праўдападобна ў вадказ на манэўры амэрыканскага шостага флёту, якія выдатна спрычыніліся да ліквідацыі камуністычнага пучу ў Ярданіі, Масква выслала свае ваенна-марскія адзінкі ў гэты раён з мэтай задэманстраваць Амэрыцы, што Крэмль ня будзе абыякава адносіцца да пашыраньня амэрыканскіх уплываў на Блізкім Усходзе.

Усё гэта ставіць Амэрыку ў даволі прыкрае палажэньне. Як ведаем, у вапошнім часе амэрыканская дыпляматыя мела паважныя посьпехі, бо вялізарная бальшыня арабскіх краінаў прыхільна аднеслася да дактрыны Айзэнгаўера, у выніку чаго Эгіпт і Сырыя, якія знаходзяцца пад уплывам Масквы, апынуліся ў ізаляцыі. Выявілася, што даляр ёсьць мацнейшым чымся арабская еднасьць і кансалідацыя. Аднак ёсьць адзін фактар, які можа аб'яднаць арабскія краіны — стыхійная нянавісьць да Ізраэля.

Нядаўна Дальлес выказаўся за правам Ізраэля на свабоду ўжываньня Акабскай затокі. На здаровы глузд гэтае права нельга аспрэчваць, аднак Арабы прытрымоўваюцца іншай думкі.

Вось-жа савецкія даставы падводных лодак і ваенна-марскія адзінкі могуць быць заахвочваньнем Нассэра да выкліканьня канфлікту зь Ізраэлям. У выпадку такога канфлікту Амэрыка апынулася-б у прыкрым палажэньні: або датрымаць сваіх абяцаньняў, дадзеных Ізраэлю, або змабілізаваць супраць сябе ўвесь арабскі сьвет. Ак бачым, маскоўскія манэўры палітычна глыбака перадуманыя.

У выніку апошніх падзеяў, якімі былі збліжэньне паміж Іракам, Ярданіяй і Саўдаўскай Арабіяй ды выбары ў Лібане, пазыцыя эгіпскага дыктатара Нассэра моцна пахіснулася. Аднак не сакрэт, што Нассэр меў амбіцыі задзіночыць пад сваім кіраўніцтвам увесь арабскі сьвет. Амбіцыі — рэч не заўсёды добрая, а ў Нассэра бачым перарост амбіцыяў. Таму, хто ведае, куды яго могуць завесьці гэтыя амбіцыі, тымбольш, што Масква не шкадуе алівы да вагню, і нафта пад бокам...

*

Масква не абмяжоўваецца толькі павялічэньнем напружаньня на Блізкім Усходзе. Прыезд на Фармозу камандуючага амэрыканскімі збройнымі сіламі на Пацыфіку адмірала Стампа быў прывітаны камуністымі артылерыйскай кананадай. Камуністычная артылерыя некалькі дзён абстрэльвала прыбярэжныя абтокі Квэмой і Матсу.

*

Як мы прадбачвалі, справа Вугоршчыны можа зацягнуцца. Пастанова прадстаўнікоў 24-х дзяржаваў, зь ініцыятывы якіх была створаная адмысловая камісія дзеля расьсьледваньня вугорскіх падзеяў, што гэтыя дзяржавы будуць імкнуцца да скліканьня надзвычайнай сэсіі АЗН «так хутка, як гэта будзе магчымым» — не настрайвае вельмі аптымістычна. Тымбольш, што зашмат гаворыцца аб летніх канікулах.

Што-ж гаварыльныя прылады дэлегатаў у АЗН, таксама дамагаюцца адпачынку. Адзін з дыпляматаў марыць аб вудачцы, другі будзе палоць ды паліваць кветкі, іншых яшчэ штось іншае прынаджвае, а бедныя Вугорцы могуць да верасьня пачакаць. Па якую трасцу падскаквалі ў лістападзе? І так ужо атрымалі крывавую лазьню. Да гэтага дыпляматы з Палацу Нацыяў добра ведаюць, што навет і надзвычайная сэсія нічога ня зьменіць...

